Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

№ 3 (18) Вільня, 25 Сакавіка 1936 г. Год III

# НОВЫ ШЛЯХ

Орган Беларускіх Нацыянал-Сацыялістаў

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Балтупская 14 — 6 (Wilno, Bołtupska 14 — 6). Рэдакцыя адчынена штодня ад 10 да 3 г. дня.

„Новы Шлях“ выходзіць пэрыядычна за кошт ахвяр сяброў і сымпатыкаў Беларускіх Нацыянал-Сацыялістаў.

## 25.III.1918 — 25.III.1936

25.III.1936 г прайшло ўжо 18 гадоў, калі Беларускі Народ праз сваіх прадстаўнікоў на ўсебеларускім зьездзе ў Менску агаласіў усяму сьвету векапамятны акт Незалежнасьці Беларусі.

Калі кінем вокам на гэтую 18 гадовую прошласьць, дык убачым, што праз увесь гэты час вялася натуга нашых ворагаў, каб недапусьціць да зьдзейсьненьня волі Беларускага Народу. З другога боку Беларускі Народ бязупынна змагаўся за свае правы і пэўнымі крокамі ідзе наперад да зьдзейсьненьня акту 25 сакавіка.

Ад самага пачатку чырвоная Масква недапусьціла да рэалізацыі нашай незалежнасьці і сілаю штыхоў разагнала ўсебеларускі зьезд у Менску, каб завёўшы сваю камуністычную дыктатуру падзяліцца з другімі Нашай Зямлёю, парэзаўшы на часткі жывое цела Беларусі.

Запанаваўшы на абшарах большай часткі Беларусі, чырвоная Масква парастрэлівала, або павысылала ў Сыбір і на Салоўкі амаль усіх дзейных і заслужаных беларускіх нацыянальных працаўнікоў. Пасьля працягнула сваю акрываўленую руку і ў Зах. Беларусь.

Тут выкарыстоўваючы свае юдавыя срэбнікі, яна пацягнула за сабою і атуманіла шмат даволі дзейных, але бязпрынцыповых адзінак, каб справакаваць іх і пасадзіць у польскія турмы, а пасьля, перагандляваўшы як нявольнікамі, узяць да сябе, каб зараз-жа павысылаць іх у Сыбір, на Салоўкі або растраляць. Пабачыўшы, аднак, што Беларускі Народ нацыянальна ўсьведамляецца і робіцца патрыятычным, і пачуўшы над сабою вялікую небясьпеку з боку нацыянальнасканса лідаваных народаў Захаду, што пераканала аб безнадзейнасьці мрояў пра сусьветную рэвалюцыю — чырвоная Масква, папіраная міжнароднай жыдоўскай буржуазіяй у абароне сваей скуры падлабуніваецца да тых, з кім нядаўна змагалася. Цяпер яна просіць усю лібэральна-дэмакратычную буржуазію, капіталістаў і клерыкалаў усяго сьвету, каб яны лучыліся з камуністамі і баранілі загрожаную чырвоную дыктатуру. Падлабуніваюцца маскоўскія камуністы і да беларусаў Зах. Беларусі. Яны ўжо зьмянілі тон, закінулі свой даўны камуністычны жаргон і хочуць нават падшывацца пад беларускую нацыянальную вопратку.

Ваўкі надзяваюць авечую скуру.

Паміма натугаў усіх нашых ворагаў —Беларускі Народ пэўнымі крокамі ідзе да зьдзейсьненьня акту 25 сакавіка. Ува ўсіх частках падзеленай Беларусі кіпіць адраджэнска - змаганская праца, нэрвуючая тых, каму не на руку воля нашага народу. Салоўкі, Сыбір, Чэка—вось месца нацыянальна дзейных беларусаў у краіне дыктатуры камуністаў. Калі спо-

мнім яшчэ арышты, праводжаныя над беларусамі латыскім урадам у Латвіі і г. п., дык будзе ясна, што Беларусь усюды жыве.

У Зах. Беларусі, паміма чужых і сваіх дэструкцыйных сілаў—ідзём да нацыянальнай кансалідацыі: зліквідавалі сябе лідэры беларускай санацыі і адыйшлі ўжо ў архіў; Беларускі Студэнцкі Саюз ачысьціўся ад дэструкцыйнага ўплыву камсамолу; Беларускі Нац. Камітэт пазбыўся бяздзейнай старой непатрэбшчыны; Б. І. Г. і К. і Т. Б. Ш. узяліся за культурна-прасьветную і школьную працу; паявіліся два прыгожыя навукова-літаратурныя часапісы, гуртуючыя энтузыястычна-дзейны маладняк паэтаў Зах. Беларусі; разьвіваюцца беларускія скауты і г. п.

Усё вышмянаванае сьведчыць, што Беларускі Народ павольна але пэўна ідзе да сваей незалежнасьці...

У 18 угодкі, у дзень нашага вялікага нацыянальнага сьвята, трэба ўсім нам падбадзёрыцца і пастанавіць яшчэ байчэй непахістна імкнуцца да намечанай мэты. Нашыя-ж сябры, спачуваючыя нам і ўсе працоўныя беларусы-патрыёты павінны сарганізавацца ў Б. Н. С. П., каб дружна павясьці барацьбу з усімі варожымі і дэструкцыйнымі сіламі беларускага адраджэньня.

## Ад сусьветнай рэвалюцыі да абароны француcкіх калёніяў.

У тых грозных падзеях, якія пачаліся і якія вырашаць лёсы ўсіх народаў, камуністычныя Саветы занялі зусім выразную пазыцыю.

Уступіўшы ў Лігу Народаў, кіраваную блёкам архі-капіталістычных дзяржаў, яны сталі тым самым у абароне пануючых на сьвеце крыўдных парадкаў.

Далейшым этапам гэтакай „рэвалюцыйнай" палітыкі было заключэньне франко-савецкага саюзу, каторы сьведчыць пра тое, што «цытадэль сусьветнай рэвалюцыі» дзякуючы дзіўным пасуненьням савецкіх дыплёматаў, перетварылася ў звычайны рэзэрвуар гарматняга мяса, патрэбны капіталістычным акулам у абароне сваіх загрожаных інтарэсаў.

Палажэньне абавязвае... Дзеля гэтай прычыны, узяўшы на сябе такі падрад у адносінах да Францыі, Саветы змушаны будуць яго выканаць, якімі-б фразамі свой ганебны ўчынак ні прыкрывалі.

Зьдзіўлены эўрапэйскі пролетарыят, ня страціўшы яшчэ сантымэнту да савецкай камуны, стаіць цяпер перад вялікім пытаньнем: ці, запраўды, у інтарэсах сусьветнай рэвалюцыі ёсьць тое, каб савецкі работнік і селянін бараніў француcкіх капіталістаў і ўзмацняў іхняе панаваньне?

Людзі, мозгі каторых затручаны інтэрнацыянальным дурманам, ніяк ня могуць зразумець, што галоўным мотарам, пхаючым Францыю да вайны з Нямеччынаю ёсьць сусьветнае жыдоўства, якое ніколі не пагодзіцца з нацыянальным адраджэньнем нямецкага народу.

Гэтае ж самае жыдоўства праз сваіх савецкіх дыплёматаў пакіравала справамі так, што здарыліся рэчы трудныя да зразуменьня, калі разглядаць іх з таго боку, з якого разглядаюць гэтую справу наіўныя...

Апошняе пасуненьне савецкай палітыкі сьведчыць яскрава, што ўсе прыгожыя лёзунгі пра справядлівасьць, самаакрэсьленьне народаў, сацыялізм і г. п. былі патрэбны камуністам у мэтах тактычных і ашуканчых.

Каб запраўды Масква была цэнтрам ідэёвага камунізму, яна ў сучасных падзеях заняла-б іншыя пазыцыі, а перадусім не стала-б на старане чорнай рэакцыі і капіталістычных шахрайстваў.

Пераход чырвонай масквы ў лагер абаронцаў француcкіх калёніяў і варожыя адносіны яе да ідэі нацыянальнага адраджэньня —ёсьць найлепшым доказам таго, кім яна кіруецца і што фактычна з сябе ўяўляе.

## Савецкі сацыялізм.

Адсталая аграрная краіна, якою зьяўляецца б. Расея з яе 150 мільёнамі некультурнага насельніцтва, ператварылася, як гэта запэўняе нас камунізуючая прэса, у запраўдны сацыялістычны рай, дзе няма ні тугі ні суму...

Толькі дзякуючы мудрасьці сваіх правадыроў, на чале з „каханым" т. Сталінам, у Саветах запанавалі такія парадкі, якімі захапляюцца ня толькі камуністы, але і многія „прастачкі", уведзеныя ў блуд крыклівай і не разьбіраючаю ў сродках камуністычнаю прапагандаю.

Як на доказ здаваленьня там усіх людзскіх патрэбаў усьцяж вытыкаецца «калёсальнае будаўніцтва» і «надзвычайны пасьпех» у культурнай галіне.

Пабудавалі Днепрастрой, Волхаўстрой, злучылі Балтыцкае мора з Паўночным Акіянам, разбудавалі цэлыя гарады...

У працягу якога небудзь дзесяцігодзьдзя стараліся „выперадзіць" капіталістычную Эўропу і нават Амэрыку.

„Там растуць, разбудоўваюцца гарады", кажа адзін з захопленых — Б. Тарашкевіч б. старшыня Грамады, а сучасны варашылаўскі стралок: „узьнікаюць новыя фабрыкі-гіганты, гудзяць на палёх трактары, узгорваючы ме-

жы вузкіх палосак, нішчучы адвечную бязхлебіцу і катаржную працу"...

Там вольная праца, бурны рост культурнага і гаспадарчага жыцьця, рост дабрабыту працоўных мас., там няма эксплёатацыі і прыгнячэньня».

Савецкімі парадкамі захопліваюцца ня толькі «варашылаўскія стралкі» і людзі пазбаўленыя крытыцызму, але нават і тыя, хто павінен, здавася-б, больш уважна прыглядацца да савецкай рэчаістасьці.

Ці запраўды ўсё там так добра і прыгожа каб можна было для гэтакага «раю» адкінуць усе іншыя імкненьні і ідэалы і сьлепа паддацца пад кіраўніцтва камуністычнай партыі і яе «мудрага» правадыра т. Сталіна?

Няўжо-ж толькі адны капіталістыі абшарнікі нездаволены з сацыялістычных пасьпехаў, аб якіх так голасна на ўсім сьвеце, і нездаволены з тае прычыны, што яны злучаны з утратаю імі свайго панаваньня?

Мы не належым ні да капіталістаў, ні да людзей, каторыя падчас камуністычнай рэвалюцыі маглі-б нешта страціць.

Усе мы нічога ня маем, зьяўляемся стопрацэнтовымі пролетарыямі, здаем сабе справу з таго, што сучасны буржуазна-капіталістычны лад ёсьць крыўдным і несправядлівым для ўсіх, хто не належыць ні да клясы капіталістаў, ні да прыслужнікаў гэтых апошніх.

Аднак і сярод гэтакіх людзей паўстае сумліў і недавер да таго, што творыцца ў Саветах.

Сацыялістычнае будаўніцтва.. Трактары... Вялікія фабрыкі і заводы... Плянэтарныя каналы...

Усё гэта рэчы, каторыя нас ня дзівяць і каторыя ў працягу вякоў і ў меру поступу цывілізацыі наглядаліся на сьвеце.

Ня спыніўся поступ і ў сучасную дабу, найлепшым доказам чаго будзе капіталістычная Амэрыка, якая пры ўмовах, нічога супольнага ня маючых з савецкімі, разбудавала сваю тэхніку і прамысловасьць так, што ёй заздросьцяць усе, а ў тым ліку і савецкія камуністы.

Ды, ўрэшце, той самы Петраград, пабудаваны царом Пятром І, а потым пераіменаваны бальшавікамі ў Ленінград і забруджаны салдатнёю падчас рэвалюцыі—ці не зьяўляецца доказам таго, што можа выканаць праца людзей, змушаных з-за кавалка хлеба тварыць цуды і на фінскіх балотах будаваць прыгожы, апрануты ў граніт і мармур, горад-сталіцу.

А піраміды эгіпецкіх фараонаў, а цуды індыйскага будаўніцтва?

Далёка яшчэ да гэтага савецкім камуністам з іхнім „наймудрэйшым з усіх мудрых" правадыром.

Засьлепленыя, а часта проста перакупленыя „стралкі" ня кажуць усяго, што яны бачаць у Саветах і гэтым уводзяць у блуд тых, хто шчыра хацеў-бы імкнуцца да Лепшага ў жыцьці грамады.

Ілжа і ашуканства пануюць на сьвеце

---

**Праект.**

# Арганізацыйны Статут
## Беларускай Нац.-Сацыялістыч. партыі

### І. Сябры Б. Н. С. П.

§ 1. Сябром Б. Н. С. П. можа быць кожны беларус, які, згаджаючыся з праграмаю партыі, будзе працаваць на яе карысьць і выконваць усе, статутова прадугледжаныя, пастановы партыйных улад.

§ 2. Абавязкам кожнага сябра Б.Н.С.П. ёсьць:

а) прыймаць партыйныя становішчы, на якія будзе выбраны або вызначаны партыйнымі ўладамі;

б) аплачваць партыйныя складкі, размер якіх устанаўляецца ўладамі партыі стасоўна да матэрыяльнага становішча сябра;

в) прымаць усе меры да прапаганды ідэолёгіі Б. Н. С. П. і вясьці рашучую барацьбу з ворожымі да яе сіламі;

г) падтрымліваць усе гандлёвыя, выдавецкія і іншыя прадпрыемствы, маючыя беларускі нацыянальны характар і імкнуцца да стварэньня беларускіх коопэратываў, суполак і рознага роду гандлёвых, рамесьляных і вырабнічых сябрын, а таксама беларускіх культурна-асьветных організацыяў;

д) пашыраць партыйную літэратуру і часапісы і знаходзіць для іх падпісчыкаў.

§ 3. Кожны сябра Б. Н. С. П. мае правы:

а) прымаць учасьце на сходах і зьездах партыі;

б) выбіраць і быць выбраным на ўсе становішчы ў партыйнай арганізацыі.

§ 4. Сябры Б. Н. С. П. прыймаюцца Цэнтральным Камітэтам партыі, які можа пазбаўляць правоў сябра Б. Н. С. П., або зусім выключыць яго з партыі за нарушэньне партыйнай дысцыпліны і іншыя ўчынкі, каторыя будуць прызнаны шкадлівымі для Б. Н. С. П.

§ 5. Акрамя сяброў сталых могуць быць сябры спачуваючыя, якія выконваючы абавязкі прадугледжаныя ў § 2 за выняткам п. а, — ня маюць правоў, прадугледжаных у § 3.

§ 6. Пасьля аднаго году працы спачуваючы сябра можа быць прыняты ў запраўдныя сябры партыі.

### ІІ. Мясцовыя арганізацыі.

§ 7. Цэнтральны Камітэт вызначае ў пасобных мясцох мужоў даверу, на абавязку каторых ляжыць тварэньне лёкальных арганізацыяў Б. Н. С. П. — сябрынаў.

§ 8. Партыйныя сябрыны павінны мець ня менш 3-х сталых сяброў і ня больш 11-ці, ня лічучы спачуваючых.

і найбольш, здаецца, яны распаўсюджаны ў Саветах.

Там пануюць гвалты, бяспраўе і найвялікшы зьдзек над чалавекам—і гэта найбольш нас абыходзіць.

Што нам з тых колёсальных фабрыкаў і заводаў, калі той, для каго яны павінны быць вызначаны і хто, як цар прыроды, павінен над імі панаваць, застаўся сваімі тэхнічнымі асягненьнямі паняволены?

Чачавек ператварыўся там у нявольніка, над каторым пануе каста ўпрывіліяваных.

У мэтах замацаваньня сваей улады яна будуе ўсялякія „цуды", маючы на мэце задушыць гэтымі цудамі людзкую істоту і зрабіць з яе звычайны прыдатак да машыны.

Пасьпехі матэрыяльнай культуры апярэдзілі там маральны і інтэлектуальны поступ людзкой масы.

А гэтакі поступ, здавалася, і павінен быць тым галоўным, што мы вымагаем ад кожнай рэвалюцыі.

Найвялікшыя насільствы творацца ў краіне дыктатуры камуністычнай партыі: бязлітасныя казьні, высылкі, нявольніцтва, якіх няма нават у Абісыніі, і іншыя пачварныя зьявішчы, каторыя ніяк ня вяжуцца з запраўднаю сацыялістычнаю культураю.

Калі-ж узяць пад увагу, што жыды адыгрываюць там кіруючыя ролі, захапіўшы ўсе адказныя пляцоўкі з мэтаю вытварыць у Саветах найбольш спрыяючыя абставіны для існаваньня і расплоду сэміцкай расы, то ўсякаго незасьлепленага чалавека можа агарнуць толькі сум і жах за лёсы шматмільённых народаў, паўшых ахвяраю, дзякуючы сваей латвавернасьці і адсутнасьці нацыянальнай сведамасьці.

Саветы ніколі ня былі сацыялістычнымі і ня будуць імі да той пары, пакуль там пануе камуністычная партыя, але ніколі яны ня вернуцца і да старога, перад-рэвалюцыйнага стану рэчаў з панаваньнем абшарнікаў і капіталістаў.

Збаўленьне для прыгнечаных у Саветах народаў прыдзе ў выніку запанаваньня на сьвеце ідэі нацыянальнага адраджэньня, спалучанага з сацыяльным вызваленьнем.

Народы Саветаў — беларусы, украінцы, грузіны і цэлы рад іншых стаяць перад вялікімі гістарычнымі здарэньнямі, якія прывядуць да ўпадку дыктатуру камуністаў, пасьля чаго гэтыя народы возьмуцца за ўпарадкаваньне свайго нацыянальнага і палітычнага жыцьця.

Апанаваньне праз нацыянальна-сацыялістычны сьветапагляд народаў Эўропы не затрымаецца на Саветах і, як усюды, замацуе і там цьвёрдыя падставы да запраўднага поступу культуры, устанавіўшы больш справядлівы грамадзкі і палітычны лад.

**Ф. Акінчыц.**

---

§ 9. Старшыня, сэкрэтар і скарбнік выбіраюцца сябрынаю і становяць ейны камітэт, каторы прыступае да выкананьня сваіх абавязкаў пасьля зацьверджаньня Ц. К. Б. Н. С. П.

§ 10. Сходы сябрыны адбываюцца ў меру патрэбы і склікаюцца з уласнай ініцыятывы Камітэту, або на жаданьне вышэйшай партыйнай ўлады.

Да кампэтэнцыі сябрыны належыць:

а) рэгістрацыя спачуваючых Б. Н. С. П. і кандыдатаў у сябры;

б) выбар дэлегатаў на партыйныя зьезды;

в) падзел арганізацыйна-агітацыйнай працы;

г) прыйманьне справаздачаў з дзейнасьці Камітэту і паасобных сяброў;

д) укладаньне плянаў працы на будучыню. Вырашэньне ўсіх пытаньняў у сувязі са спосабамі пашырэньня беларускай культурна-асьветнай і гаспадарчай працы ў раёне.

§ 11. У меру пашырэньня дзеяльнасьці Б. Н. С. П. могуць тварыцца паветовыя арганізацыі і раённыя, рэгулямін і інструкцыі для каторых будуць своечасна апрацаваны Ц. К. Б. Н. С. П.

### III. Агульны Зьезд.

§ 12. Агульны Зьезд, будучы найвышэйшаю ўладаю Б. Н. С. П., пастанаўляе аб усей палітычнай і арганізацыйнай дзеяльнасьці партыі, а таксама аб праграме, статуце і тактыцы; выбірае Цэнтральны Камітэт і Рэвізыйную Камісію і прыймае ад іх справаздачу.

§ 13. Агульны Зьезд складаецца з сяброў Цэнтральнага Камітэту, сяброў Рэвізыйнай Камісіі, рэдактароў і адказных супрацоўнікаў партыйных часапісаў і выдавецтваў, мужоў даверу і прадстаўнікоў ад партыйных арганізацыяў, выбраных у гэтых мэтах на іхніх агульных сходах — па аднаму ад кожнай сябрыны.

§ 14. Агульны Зьезд склікаецца Цэнтральным Камітэтам ня менш аднаго разу у 3 гады.

§ 15. Першы Агульны Зьезд склікаецца Арганізацыйнаю Камісіяю, складаецца з сяброў, запрошаных гэтаю апошняю, аб'яўляе сябе арганізацыйным зьездам партыі, прымае праграму і статут Б. Н. С. П. і выбірае Цэнтральны Камітэт і Рэвізыйную Камісію.

### IV. Рада Б. Н. С. П.

§ 16. Рада Б. Н. С. П. складаецца з сяброў Ц. К., рэдактараў партыйных часапісаў, Рэвізыйнай Камісіі і мужоў даверу, паклíканых Цэнтральным Камітэтам.

§ 17. У выпадках пільнай патрэбы вывіць становішча ўсей Б. Н. С. П. Цэнтр. Ка-

*Да ўсіх спачуваючых праграме Б. Н. С. П.*

*У сувязі з апублікаваньнем праграмы Б. Н. С. П. у рэдакцыю нашага часапісу надыходзяць заявы грамадзян аб зарэестраваньні іх у сябры партыі і пра выдачу ім партыйных білетаў.*

*Гэтым заяўляем, што толькі пасьля арганізацыйнага зьезду партыі зглошаныя кандыдаты могуць быць прынятымі ў Б. Н. С. П. як сябры, пасьля чаго яны атрымаюць партыйныя білеты.*

*Да гэтага часу ўсе спачуваючыя праграме Б. Н. С. П. павінны высылаць заявы ў рэдакцыю час. «Новы Шлях» з просьбаю аб іхнім зарэестраваньні і чакаць на паведамленьне аб зьезьдзе.*

*Арганізацыйная Камісія.*

*Вільня, 20 сакавіка 1936 г.*

# Апошні ратунак.

У апошнія часы наглядаецца ўзмоцненая акцыя Маскоўскага Камінтэрну, які напружвае ўсе высілкі, каб пашырыць свае ўплывы і ўцягнуць народныя масы на шлях камуністычнай рэвалюцыі.

Іншага выхаду для яго няма.

Надзеі на ператварэньне Кітаю ў нявычарпаны рэзэрвуар для папаўненьня чырвонай арміі і для іншых патрэб—завялі.

На перашкодзе апынулася Японія, зашахаваўшая пляны Камінтэрну, каторы траціць адна за другою ўсе свае пазыцыі на Далёкім Усходзе.

Пры гэтакім стане рэчаў застаецца толькі адно—(аб чым, між іншым, заўсёды цьвярдзілі троцкісты) — гэта зьвярнуць галоўную ўвагу на Захад і тут пастарацца выклікаць забурэньне.

Абставіны зложыліся так, што Камінтэрн змушаны цяпер весьці падвойную палітыку.

З аднаго боку, маючы да сваёй дыспазыцыі Савецкіх дыплёматаў на чале з такім „праныраю" як лодзінскі жыд Валах Літвінов, ён разводзіць у Лізе Народаў пра спосабы забясьпячэньня сусьветнага супакою, а з другога — пры дапамозе сваіх тайных экспазытур, імкнецца выклікаць сусьветную анархію.

Дзякуючы таму цяжкаму палажэньню, у якім апынуўся Камінтэрн, ён зьмяніў сваю

---

мітэт склікае Раду партыі, каторая мае тады компэтэнцыю партыйнага зьезду.

### V. Цэнтральны Камітэт.

§ 18. Цэнтр. Камітэт кіруе дзейнасьцю ўсіх арганізацыяў Б. Н. С. П., а таксама дзейнасьцю сваіх прадстаўнікоў у розных установах, куды яны будуць дэлегаваны.

§ 19. Ц. Камітэт складаецца з 5 сяброў і 2 заступнікаў і выбірае з паміж сябе провад у складзе старшыні, сэкрэтара і скарбніка. Акрамя таго ў склад Ц. Камітэту ўваходзіць з правам рашаючага голасу рэдактар партыйнага часапісу.

§ 20. Провад, выбраны Цэнтральным Камітэтам зьяўляецца провадам усёй партыі і можа быць зьменены толькі партыйным зьездам.

§ 21. Правы і абавязкі партыйнага проваду акрэсьляюцца спэцыяльнаю інструкцыяю Цэнтральнага Камітэту, зацьверджанаю партыйным зьездам.

§ 22. Паседжаньні Ц. К. адбываюцца ў меру патрэбы і склікаюцца старшынёю, па пастанове проваду, або на жаданьне хаця-ж бы аднаго сябра Ц. К.

### VI. Рэвізыйная Камісія.

§ 23. Рэвізыйная Камісія складаецца з 3-х сяброў і 1 заступніка, якіх выбірае агульны зьезд Б. Н. С. П.; спраўджае прыходна-расходныя кнігі Ц. К., аб чым робіць справаздачу на агульным зьезьдзе Б. Н. С. П., або перад Радаю партыі.

### VII. Партыйны суд.

§ 24. У выпадку патрэбы Цэнтр. Камітэт арганізуе партыйны суд для разгляду непаразуменьняў паміж сябрамі партыі на грунце грамадзкай працы.

Інструкцыі для партыйнага суду распрацоўвае Цэнтр. Камітэт.

### VIII. Фінансы Б. Н. С. П.

§ 25. Фінансы Б. Н. С. П. складаюцца:

а) з сяброўскіх складак;

б) з даходу ад прадажы партыйнай літэратуры;

в) з ахвяраў.

§ 26. Палова сяброўскіх складак застаецца ў лёкальнай арганізацыі, а другая адсылаецца ў Ц. К. партыі.

### IX. Пастановы.

§ 27. Пастановы ўсіх парт. арганізацыяў прымаюцца звычайнаю большасьцю галасоў. Пастановы Агульнага Зьезду або Рады адносна зьмены праграмы ці статуту вымагаюць большасьці 2/3 галасоў прысутных удзельнікаў.

тактыку нават у адносінах ня толькі да капіталістычных дзяржаў.

Некалісь, напрыклад, (а гэта было яшчэ ня так даўно) іншага назову для сацыялістаў, ці некіх радыкалаў-дэмакратаў як здраднікі, або служкі буржуазіі — ня было.

З імі вялася сыстэматычная, жорсткая і не разьбіраючая ў сродках барацьба, а ў Саветах усе яны, уключна да левых сацыялістаў-рэвалюцыянэраў, апынуліся ў турмах і ссылцы.

Цяпер выразна даецца заўважыць некае дзіўнае і неспадзяванае зьявішча.

Тыя самыя камуністы, каторыя бязлітасна прасьледавалі ўсё, што мела сваю ўласную ідэолёгію, не згаджаючуюся з упрошчаным камуністычным сьветапаглядам, раптоўна перамянілі тактыку і пачалі запрашаць сваіх ворагаў да супрацоўніцтва ў мэтах барацьбы з фашызмам.

Трэба прызнаць, што ў гэтым выпадку яны выявілі чыста сэміцкі спрыт і вялікую бязцэрэмоннасьць.

У выніку гэтых сваіх здольнасьцяў яны ўжо ўсьпелі зацягнуць у свае цянёты францускіх і гішпанскіх сацыялістаў.

Што з гэтага будзе — хутка пабачым, але здаецца нам, што латваверныя людзі, стаўшыя ахвярамі камуністычнага шахрайства, некалісь пакаюцца ў тых гістарычных памылках, каторыя яны папоўнілі ў адносінах да свайго народу і бацькаўшчыны.

Творучы г. зв. антыфашыстоўскі фронт камінтэрн мае на мэце выключна зьдзейсьненьне сваіх плянаў, сутнасьць якіх палягае на ўцягненьні ў рэвалюцыйную барацьбу шырэйшых колаў народу.

Дапяўшы гэтага, яму вельмі лёгка далося-б пакіраваць справамі ў такі спосаб, каб уся ініцыятыва апынулася ў ягоных руках, што, урэшце, мы ўжо і наглядаем усюды, дзе гэтакія фронты ўтварыліся.

У выпадку перамогі, Камінтэрн заўсёды будзе панам палажэньня, бо ён мае добра арганізованы выканаўчы апарат, колёсальныя грашовыя сродкі і, урэшце, яго ўяўны і ўкрыты спосаб падтрымлівае сусьветнае жыдоўства, выконваючы свае чыста расавыя заданьні.

Калі-б акцыя камінтэрну закончылася пасьпехам, а гэта значыць, што ўсюды зьдзейсьніліся б лёзунгі камуністычнай рэвалюцыі, тады паўтарылася-б тое самае, што мы наглядалі падчас бальшавіцкага перавароту ў Расеі.

Патроху камуністы „атрасаліся-б" ад сваіх прыпадковых падарожнікаў, абвінавачваючы іх у розных „грахох" проці рэвалюцыі і забіраючы адначасна з гэтым усё кіраўніцтва ў свае выключна рукі.

Цяперашняя акцыя, якую Камінтэрн вядзе ўва ўсім сьвеце, даводзіць, між іншым, і пра ягоную слабасьць.

Будучы загрожаны з усіх бакоў і ня маючы пэўнасьці што да трываласьці камуністычнай дыктатуры ўнутры Саветаў, Камінтэрн хапаецца за апошні сродак і працягвае руку да тых, каго ён лічыў сваім ворагам.

У выніку такіх распачлівых высілкаў мы наглядаем усюды, і нават на нашым беларускім грунце, рэчы дзіўныя і годныя ўвагі...

Але нават і гэтакі надзвычайны манэўр, прадыктаваны пякучаю патрэбаю, палажэньня Камінтэрну не ўратуе.

Камуністычная сусьветная рэвалюцыя, чаго так баяўся Ленін, спазьнілася.

За гэты час, пакуль яе прарокі паміж сабою грызьліся і ніяк не маглі дагаварыцца да некага адзінага стратэгічнага пляну вырасьлі вялікія перашкоды, каторыя зьмятуць з твару зямлі ня толькі „сацыялістычнае" будаўніцтва ў Саветах, але і саму ідэю накіненьня камуністычнага ладу народам, да яго недасьпеўшым.

Да ліку гэтакіх перашкодаў, у першую чаргу, належыць рост нацыянальнай і грамадзкай сьведамасьці народаў, паняволеных камуністычным заходніцтвам.

Першая ваенная завіруха прывядзе ў рух усе нацыянальныя сілы, каторыя выкарыстаўшы цяжкае міжнароднае палажэньне Саветаў, паложаць канец камуністычнаму панаваньню.

Замест трыумфальнага паходу па ўсім сьвеце, Маскоўскі Камінтэрн апынуўся на пярэдадні банкруцтва, тым больш няўхільнага, што акрамя сілаў дзеючых унутры Саветаў, з Усходу на яго напіхае Японія, а з Захаду пагражае новы сьветапагляд, каторы, зцэмэнтаваўшы Нямеччыну, вытварыў з яе няпераможную сілу.

Гэтакіх гарэшкаў Камінтэрну раскусіць ня ўдасца і ён мусіць на іх абламаць свае зубы...

Не памогуць тут і заплясьнеўшыя дэмакратычныя шаты, у каторыя ён апрануўся, бяручы на сябе ініцыятыву пры ўтварэньні „проціфашыстоўскага" фронту.

С. Б.

---

# Газэта „Poprostu" і беларусы.

Ад пэўнага часу ў Вільні выходзіць польскі двутыднявік „Poprostu", каля якога гуртуецца г. з. „акадэміцкая левіца" і яе сымпатыкі. Здавалася-б, што яна можа мець да беларусаў? Польская газэта, як і шмат іншых. Аднак з узгляду на зьмест гэтай газэты, а яшчэ больш з узгляду на адносіны да яе пэўнай часткі беларускага грамадзянства — варта над ею затрымацца і разглядзець якую ролю яна адыгрывае ў адносінах да беларусаў.

Перадусім гэта газэта ёсьць польская і як такая распаўсюджываная паміж беларускімі масамі — палянізуе іх. Апрача гэтага яна прапаведуе Марксо-Ленінізм — клясавую барацьбу і, гэтым самым, шкодзіць справе нацыянальнай консолідацыі беларускага народу, які амаль выключна — сялянскі. На нашых

землях фабрыкант, абшарнік, купец, гандляр і наагул капіталіст—гэта жыд, паляк або расеец — беларусам нацыянальна чужыя. Змагаючыся за нацыянальнае вызваленьне, гэтым самым, мы змагаемся з вышмянаванымі эксплёататарамі.

Паміма таго, што газ. „Poprostu" ня можа даць ніякай карысьці беларускаму народу, нейкі час (а мо' яшчэ і цяпер) чамусьці знаходзіцца пэўная частка беларусаў, якія ўваходзяць у целячы „восторг" калі „Poprostu" зьмесьціць нешта пра беларусаў, а часам нават і пролетарскі беларускі верш.

Дзіўнае зьявішча. Чаму-ж гэта такія спачуваючыя адносіны некатарых беларусаў да польскай газэты „Poprostu"? Ці-ж гэтая газэта сказала што новае? Ці-ж яна першая, каб падлабуніцца да беларусаў, прызнае іхнія правы? Раней яшчэ, перад ею іншыя польскія газэты, калі ім трэба было пацягнуць беларускія масы—„спрыялі" беларусам і нават пісалі зусім пабеларуску. Прыпомнім толькі газэты, выдаваныя калісь польскай партыяй „хлопскай" і „вызволенем". Усе яны галасілі спогад беларусам і прызнавалі іхнія ўсе правы. Усё гэта, аднак, не перашкодзіла ім галасаваць у сойме за асадніцтва на беларускіх землях. Газэта „Poprostu" і ейныя супрацоўнікі, падобна вышмянаваным польскім партыям, відавочна таксама маюць нейкую ўкрытую мэту адносна беларусаў.

Гэтая газэта ёсьць яшчэ больш шкодная беларусам, бо адцягівае іх увагу ад нацыянальнай барацьбы, прапагуючы клясавую ненавісьць і сымпатыю да С. С. С. Р.

Каля „Poprostu" гуртуюцца панічы - сыны польскай буржуазіі і асаднікаў, якія, паміма хваленьня Саветаў, былі-б там напэўна «лішэнцамі». Спачувае і салідарызуецца з гэтай газэтаю ведамы ўсім беларусам Шантэр, каторы ў свой час у „Кур'еры Віленскім" радзіў адпаведным дзейнікам тварыць абозы для беларускіх дзяцей у глыбі Польшчы, дзе-б іх можна было лягчэй апалячыць.

Беларусы, каторыя захопліваюцца, што польская газэта „Poprostu" дае ім месца і прызнае іхнія правы — выяўляюць сваю нявольніцкую псыхіку. Яны адчуваюць так, як адчувае парабак, што цешыцца калі панскія сыны - панічы пасадзілі ягонага сына з боку пры стале і даюць яму вылізываць панскія талеркі.

Апрача ўсяго, яшчэ трэба адцеміць, што няведама якую мэту мае „Poprostu" ў адносінах да беларускага народу. Гэткае пытаньне мы маем права паставіць дзеля таго, што ўжо беларусы перажывалі камунізуючых „мэцэнасаў" беларускага руху, якія адыгралі ня надта сымпатычную ролю. Успомнім толькі ролю ў „Грамадзе" «камунізуючага» польскага абшарніка С. Ваевудзкага і ўжо нават гэта адно павінна прыпамінаць беларусам, як яны мусяць быць асьцярожны ў даборы сваіх прыяцеляў.

Ня лішне будзе яшчэ прыпомніць і тое, што нават запраўдны камуніст паляк Домбаль, калі ўцёк у Саветы — зараз-жа пастараўся залажыць недалёка Менску Польскі Койданаўскі Раён (цяпер наз. Дзержынскім), выкарыстаўшы да гэтага касьцёлам нацыянальна-атуманеных беларусаў каталікоў.

Усё гэта аж - надта даказвае, што беларусы не павінны захопліваццa прыгожымі славамі „прыяцеляў", якія так соладка пяюць, хочучы здабыць беларускія масы для сваіх міжнародна - пролетарыяцкіх мэтаў, тармозячых нацыянальную консолідацыю Беларускага Народу.

К.

---

*Б. І. Г. і К. і Т. Б. Ш. выдалі супольную адозву ў справе Беларускага школьніцтва і агаласілі 1936 г. — годам беларускага школьнага плебісцыту, выдаючы адпаведныя інструкцыі і літэратуру.*

*Мы прылучаемся да гэтай акцыі і з свайго боку заклікаем усіх беларусаў да незапужанага змаганьня за сваю родную школу.*

---

## Прымас Польшчы кард. А. Глёнд аб жыдох.

Галоўны біскуп Польшчы кард. А. Глёнд нядаўна агаласіў «ліст пастэрскі», у якім, між іншым, парушае жыдоўскае пытаньне ў Польшчы. Мы ніжэй падаем тое, што ён сказаў у пастырскім лісьце аб жыдох.

Праўдзівыя словы высокапастаўленай у каталіцкім касцеле асобы, сказаныя ў дакумэнтальна - афіціяльным выступленьні, як бізуном сьцёбаюць жыдоў.

Вось што, між іншым, кардынал у сваім пастырскім лісьце пра іх кажа:

„Жыдоўскае пытаньне існуе і будзе існаваць, пакуль жыды будуць жыдамі. У паасобных краёх гэтае пытаньне мае markрознае напружаньне і розную актуальнасьць. У нас яно ёсьць спэцыяльна труднае і павінна быць абьектам паважных разважаньняў. Тут я закранаю коратка яго маральную старану ў зьвязку з сяньняшнім палажэньнем.

Фактам ёсьць, што жыды змагаюцца з каталіцкім касьцёлам, папіраюць масонства, становяць авангарду бязбожніцтва, бальшавіцкага руху і разбураючай акцыі.

Фактам ёсьць, што жыдоўскі ўплыў на маральнасьць ёсьць згубны, а іхнія выдавецтвы распаўсюджваюць порнографію.

Праўдай ёсьць, што жыды дапушчаюцца ашуканстваў, ліхвярства і вядуць гандаль жывым таварам. (Пад відам пасады прадаюць дзяўчат у дамы распусты. Рэд.).

Праўдай ёсьць, што ў школах уплыў жыдоўскай моладзі на каталіцкую ёсьць наагул пад узглядам рэлігійным і этычным ад'ёмны..."

(Gazeta Polska № 81 z dnia 21.III.1936).

## Жыдоўска-рытуальная эксплёатацыя.

Нядаўна ў сойм пасланка Прыстарава падала праект закону аб рэзьнях. З гэтага праекту і з соймавай дыскусыі ў гэтай справе выявіліся рэчы, якія ня кожны ведаў. Аказалася, што жыды ў Польшчы (перадусім у часцы б. Расейскага забору) фактычна маюць манаполь на рэзаньне жывёлы. Гэтую жывёлу яны рэжуць паводле свайго жыдоўскага рытуалу г. з. нельга стварэньня для зьменшаньня мукаў аглушаць, а трэба рэзаць так, каб яна канала паволі, ад убытку крыві. Пры гэтым разаком ёсьць назначаны рабінамі жыд, які за гэта бярэ даволі вялікую аплату. Зарэзаная такім спосабам жывёла дзеліцца на дзьве часткі: перад — кашэр бяруць сабе жыды, а зад — трэф прадаюць гоям, значыцца ня жыдом. Гэтыя апошнія ёсьць змушаны купляць мяса жывёлаў, бітых паводле жыдоўскага рытуалу. Пры рытуальным рэзаньні, апрача вялікай платы рэзьніку, пабіраецца плата на жыдоўскую гміну. Ад гэтага ўсяго мяса даражэе і хрысьціянін, купляючы яго, аплачывае падатак для жыдоў.

І вось калі ў сойме парушылі гэтую справу, дык жыды паднялі страшны „гевалт": крычалі, што пасягаюць на іх рэлігію, маліліся, пасьцілі і г. п. Але нічога не памагло. Праект, што праўда з папраўкамі, але прайшоў. Цяпер жыды будуць магчы рытуальным способам забіваць жывёлы толькі столькі, сколькі ім самым патрэбна. Разумеецца, будуць змушаны небаракі і зады есьць бо з рытуальнае рэзьні мяса ня будуць мець права прадаваць хрысьціянам.

## На беларускім нацыянальным фронце ў Вільні.

21.II.1936 г. у Беларускім Студэнцкім Саюзе старшыня Беларускага Нац.-Сац. Актыву Ф. Акінчыц выгаласіў рэфэрат на тэму: нацыянальнае, работніцкае і аграрнае пытаньні ў Ідэолёгіі Беларускага Нац.-Сацыялізму. Пасьля рэфэрату адбылася дыскусія над рэфэратам і агулам над праграмай Б. Н. С. П. Амаль усе прамоўцы да праграмы аднесьліся пазытыўна.

——

У канцы красавіка рэд. Ул. Казлоўскі прачытае рэфэрат на тэму: „Антыфашыстаўскі фронт" і беларусы.

——

18.III.36 г. у Беларускім Студэнцкім Саюзе студэнт Баранавіч прачытаў рэфэрат на тэму: газэта „Poprostu" і беларусы. Дакладчык даказываў, што „Poprostu" ёсьць беларускай нацыянальнай справе шкоднай. Пасьля адбылася гарачая дыскусыя, падчас якой амаль усе падтрымоўвалі цьверджаньне дакладчыка. У абароне два разы выступаў галоўны рэдактар „Poprostu" Дэмбінскі, які меў даволі цяжкую задачу, баронячыся ад закідаў, стаўляных беларусамі ягонай газэце.

——

Газэта-двутыднявік „Наша Воля", якой ідэолёгію трудна было адгадаць, цяпер выдалася: у нумары з 20.III.36 прапусьціла моўчкі прыпадаючае нацыянальнае беларускае сьвята — 18 угодкі Абьвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Ад гэтага часу яе ідэолёгія сталася беларусам зразумелаю.

23.III.1936 г. у акружным судзе ў Вільні распачаўся працэс супроць 16 абвінавачаных за камунізм. На лаўцы падсудных засела група беларусаў і жыдоў на чале з б. рэдактарам „Беларускай Газэты" Карповічам.

Відаць ня скончыцца камуністычна-жыдоўскае баламуцтва, пакуль будуць знаходзіцца шабэс-гоі.

## Да чытачоў.

Некатарыя з нашых чытачоў маюць перад намі доўг, г. з. чытаючы газэту не парупяцца прысылаць складку на яе выдавецтва. Такія чытачы эксплёататарскі выкарыстоўваюць працу самаахвярных людзей і выяўляюць сваю грамадзкую нясьпеласьць.

Мы ведаем, што вёска бедная. Але ўсёткі пры шчырым хаценьні можна па некалькі асоб у складчыну сабраць нешта для падтрыманьня і часьцейшага выдаваньня газэты.

Каб заахвоціць чытачоў да выкананьня свайго абавязку, вызначаем наступную прэмію:

Хто прышле на „Новы Шлях" ня меней 2 зл., той апрача газэты атрымае:

1) **Шляхам Змаганьня** Зборнік вершаў Ул. Казлоўшчыка;

2) **Аграрна-коопэратыўная палітыка будучыні** Ф. Акінчыца.

3) **Za Baćkaŭščynu** Pieśni pracy i zmahańnia A. Stepowiče. Патрыятычны сьпеўнік з нотамі.

Хто прышле 1 зл. 50 гр. — атрымае першыя дзьве кніжкі.

А хто — 1 зл. — атрымае адну першую кніжку.

**Карыстайце з аказыі!**

Рэдактар і выдавец: Ул. Казлоўскі. Галоўны рэдактар: Рэдакцыйная Калегія.

Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны, Вільня, Завальная 1—3.

